Год V.    Сакавік    № 3 (50).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі.“

ЯНКА КУПАЛА.





ВІЛЬНЯ, 1933 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

**Грамадзяне, пасьпяшайцеся з прысылкай падпіскі на „Шлях Моладзі“ за 1933 год, бо ўжо ад гэтага нумару пачынаем часткова ўстрымліваць высылку часопісі ўсім тым, хто дагэтуль не аплаціў за яе падпіску.**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі“
МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.
Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 6 — 10.
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год V. | Вільня, Сакавік 1933 г. | № 5 (50). |
|---|---|---|

# Будзем жыць!

## *(З прычыны 15-тых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі).*

*(25.III.1918 – 25.III.1933).*



Добры гаспадар, ці ён будзе вялікі ці малы, багаты ці бедны, усімі сіламі імкнецца да таго, каб ягоная гаспадарка стаяла на як найвышэйшай ступені дабраты, а так-жа, каб самому быць вольным і ад нікога незалежным. Падобна ёсьць і з народамі. Кожны народ імкнецца да таго, каб мець сваю незалежную, вольную дзяржаву-гаспадарку, дзе можна было-б паводле свайго пляну, сваімі собскімі рукамі гаспадарыць.

Імкнуўся да гэтага і народ беларускі і ў гэтым кірунку многа здабыў: — меў сваю дзяржаву, багатую культуру, вёў сам самастойна гаспадарку; беларуская народная мова была мовай урадавай — у ёй пісаліся законы, у ёй прапаведвалася слова Божае і г. д. — адным словам жыцьцё красавалася (Залатая пара—XV і XVI ст. ст.). На жаль, гістарычныя абставіны так склаліся, што Беларусь апынулася пад уладай сваіх нядобрых суседзяў.

Па нейкім часе панаваньня чужынцаў у нашым Краю здавалася, што ўсё самастойнае беларускае здушана і што нам ужо да свайго собскага жыцьця нельга будзе вярнуцца, што падзем мы ахвярай грубой сілы і несправядлівасьці (XVIII ст.). Аднак так, сьмела можна сказаць, ня станецца. Бо вось нашліся людзі, якія коштам нават жыцьця свайго пачалі змагацца за праўду, за волю беларускага народу. Іх-жа кадры мала-па-малу пачалі павялічвацца і дайшло да таго, што народ беларускі меў цэлую армію барацьбітоў-адраджэнцаў за волю Беларусі. Гэтыя барацьбіты, выражаючы беларускую агульна-народную волю, 25 га сакавіка 1918 году абвесьцілі Беларусь Краінай **Вольнай і Незалежнай.**

У гэты мамэнт ня спалі нашыя ворагі і, пабачыўшы, што ўцякаюць з іх рук вялікія здабычы, пастанавілі недапусьціць правядзеньня ў жыцьцё гэтага Акту. І сапраўды, зьдзейсьніць пастанову Рады Беларускай Рэспублікі яны не дапусьцілі. З аднэй стараны ашуканствам, з другой — грубой сілай фізычнай зламалі яны маладыя, сьветлыя, гарачыя парывы лепшых сыноў нашае Бацькаўшчыны і Беларусь у 1921 г. была падзелена на тры часткі. Кожная з іх атрымала іншага гаспадара, якія, не цэрамонячыся з нашым народам, выцягваюць ад яго, што толькі могуць; узамен-жа не даюць нічога.

І ў гэтым аднак цяжкім, няраз жудасным часе не пераваліся адраджэнцы-змагары за праўду, — яны ёсьць цяпер, жывуць і дзеюць.

Сёлета 25 сакавіка мы сьвяткуем 15-тыя ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, аддаём чэсьць байцом за яе свабоду, падлічаем свае сілы, кіруем свае вочы да пуцяводнай зоркі, якая блiснула нам 25.III.1918 г. і сьмела можам сказаць, што **жыць будзем**, бо ідэя Акту з 25-га сакавіка 1918 году пашыраецца і паглыбляецца. Аб гэтым сьведчаць факты з нашага штодзеннага жыцьця.

Сяньня, паміма цяжкога палажэньня, паміма ўсялякіх перашкодаў, сьведамасьць расьце, народ адраджаецца. Беларуская справа расьце ўглыб і ўшыркі. Яна ўжо ёсьць ня толькі справай нашай беларускай, але справай агульнанароднай. — Аб ёй ужо моцна гавораць за граніцай, у Жэнэве, Лёкарно ды іншых цэнтрах Эўропы і ня толькі беларусы, але **сусьветныя палітыкі**. Беларуская справа перастае быць справай „хатняй“, а стаецца справай **міжнароднай.**

Пры ўсім гэтым мы-ж беларусы ў гэтай сьвятой для нас справе не адны: з намі нашы найбліжэйшыя саюзьнікі — суседзі літоўцы, з намі браты ўкраінцы, з намі кожны, хто служыць праўдзе, **з намі самая праўда!**

Што-ж астаецца рабіць нам, моладзі, у гэты так важны мамэнт?

Нам трэба ўсім страхануцца ад сьпячкі, ськінуць з сябе хвараблівы нарост „Związków“, „Stowarzyszeń“, „Strzelców“, гартаваць у сабе духа, волю, будзіць народ, усьведамляць яго, **паглыбляць ідэю незалежнасьці** і быць на ўсё гатовым.

Дык, браты маладыя! Зважай!...

Я. Н.



# Карысная праца на марна ня йдзе.

*Напасьцяў, лаянкай напраснай*
*Грудзей ня варта мазаліць,*
*Не пагасіць вам праўды яснай,*
*Жыў беларус і будзе жыць!!...*

Гэтыя несьмяротныя словы нашага прарока Янкі Купалы, сказаныя тады, калі народ наш жыў, але яшчэ спаў— сяньня набіраюць асаблівага значэньня, бо народ наш ня толькі жыве, але і творыць. Усюды, дзе толькі знаходзіцца клетачка беларускага арганізму, яна жыве, разрастаецца, творыць новыя клетачкі таго-ж арганізму. „Жыў беларус і будзе жыць!» І ён жывець і творыць. Ня трэба ніякіх на гэта доказаў, акрамя прыкладаў з яго-ж жыцьця і творчасьці.

Мы сяньня знаходзімся ў такіх абставінах, што ня можам разьвярнуць на шырокі масштаб нашай народнай працы: мы ня можам вольна працаваць ані ў якой галіне: ані ў эканамічнай, ані палітычнай, ані культурна-прасьветнай, ані рэлігійнай; усюды спатыкаем перашкоды. Дазваляецца нам рабіць толькі на шкоду нашых народных ідэалаў. Вольна нам быць здраднікамі, рэнэгатамі, бязбожнікамі, крывадушнікамі, вольна дэмаралізавацца. Але ня можна нам „людзьмі звацца,“ называць сябе сваім уласным імем, прасьвячаць свае ўмыслы родным словам, ня вольна нам гутарыць з Тварцом нашай мовай і г. д. Усё нам дазваляецца, што нас вядзе да зьнішчэньня, як адзінкі, як народу. І трудна нам бароцца з цёмнай хмарай, якая нас прыдушыла, аднак змагаемся з апошніх сіл і яшчэ жывём. А калі жывём, дык і будзем жыць.

А калі жывём, то і т в о р ы м, а калі творым, то і с т в о р ы м. Эканамісты кажуць, што ўсякая найменшая адзінка энэргіі, выдзеленай для вытворчасьці, ня гіне, а наадварот—яна дасьць прадукт адпаведны. А калі так, дык і найменшая добра пакіраваная наша праца ў кірунку народных ідэалаў мусіць прынесьці жаданыя плады.

Мы, моладзь, відзім плады працы ня толькі нашых папярэднікаў, нашых бацькоў, якія працавалі для беларускай справы, мы часта ўжо заўважываем жаданыя плады нават нашай працы нядаўна пачатай. На аўтар беларускай Пагоні сяньня ўжо тысячы людзей кладуць у ахвяру сваё жыцьцё, свае маладыя сілы. Сяньня беларуская справа ня ёсьць нейкім пытаньнем дыялектычных зьявішчаў для філёлёга ці інш. засушанага ў кніжках вучонага. Сяньня беларуская справа становіцца справай міжнародных зацікаўленьняў. Мы бачым, што беларускі народ, асабліва моладзь у 80 працэнтах ахоплена нацыянальнай і соцыяльнай сьве-

дамасьцяй. Гэтае зьявішча бачым ня толькі ў Заходняй Беларусі, на беларускіх землях пад Латвіяй, бачым гэта нават у Беларусі Усходняй, дзе пануе можа наймацнейшы тэррор нацыянальнага глумленьня. Міма аднак усяго і там за нацыянальныя ідэалы ідуць на Салаўкі нязьлічаныя ахвяры і гніюць па вастрогах.

Бачым, што спружына беларускага нацыянальнага усьведамленьня і сьвядомасьць сваіх мэтаў з кожным днём мацней напружываецца. І дачакаемся таго часу, напэўна, калі гэта спружына дойдзе да апошняга пункту свайго апору. І тады яна або зломіцца, або сарвецца і ўдарыць па зубах таго, хто яе напружыў.

Ня трэба сумаваць, што ў нашым грамадзянстве ёсьць адзінкі, а нават «арганізаваныя» групы, якія ня хочучы, або ня могучы ўстаяць на народным фронце, дабравольна здаюцца ў палон непрыяцелю, або гнуцца пад цяжарам навалы. Іх ня жаль, няхай яны лепш зараньня ўступаюць з фронту, чым у рашучую хвіліну мелі-б здрадзіць. Нам-жа, якія стойка бароняць сваіх ідэалаў на цяжкім народным фронце, ня вольна з пляцоўкі сступіць. Нам трэба бароцца да канца — або перамагчы, або зламацца. Гнуцца і прымаць позу рабскую нам ня вольна, бо мы жаўнеры шматмільённага народу.

М. Сакол.

# Jubilei 1933 hodu.

U 1933 hodzie biełarusy śviatkujuć dva jubilei: 15-cihodździe abvieščańnia Niezaležnaści Biełarusi i 70-cihodździe biełaruskaj presy. Akt pieršaha jubileju byŭ dakanany ŭ 1918 hodzie, a druhoha — u 1863 h. Hetyja akty śviedčać ab imknieńni biełarusaŭ da samastojnaha raźvićcia i pakazvajuć toj šlach, pa katorym my pavinny jšci da svajho Ideału. Jany padtrymlivajuć i pahłyblajuć našu vieru ŭ pieramohu praŭdy, uzbudžajučy pašanu da ŭsich tych, chto jdzie pa šlachu, aznačanym tvarcami hetych aktaŭ.

Ale 1933 hod prynosić i inšyja jubilei, katoryja datyčać kulturnaha raźvićcia ŭsiaho cyvilizavanaha śvietu, a razam z im i nas biełarusaŭ. Naładzić śviatkavańnie hetych jubilejaŭ my nia ŭ stanie: dyk choć prypomnim tyja pryčyny, jakija ich vyklikali, kab addać naležnuju ad nas dań udziačnaści ichnym tvarcom, a ŭ sabie samych uzbudzić bolšuju pašanu da navuki, hetaj padstavy kultury kožnaha narodu.

Dyk voś hetyja jubilei:

20 ŭhodki apublikavańnia dr. Zylberštejnam elektronnaj teoryi materyi ŭ 1913 h.

25 ŭhodki atrymańnia pry temperatury 270 hradusaŭ nižej nula, hazu helija ŭ ciekłym stanie.

50 ŭhodki adkryćcia doktaram Kocham bacyłaŭ chalery ŭ 1883 hodzie.

75 ŭhodki prałažeńnia padvodnaha telehrafnaha kabelu praz Atlantycki akijan pamiž Eŭropaj i Amerykaj u 1858 h.

100 ŭhodki vynachodu Furnejronam pieršaj turbiny dla vadzianych młynoŭ u 1833 h.

„ ŭhodki vynachadu Perro'm mašyny dla nabivańnia parkalaŭ u 1833 h.

„ ŭhodki vynachadu Hausam i Weberam pieršaha elektro-mahnitnaha telehrafu u 1833 h.

„ ŭhodki adkryćcia Hausam ziamnoha mahnityzmu u 1833 h.

„ ŭhodki vynachadu pieršych fosfarnych siernikaŭ u 1833 h.

125 ŭhodki vynachadu Žakarram mechaničnaha tkackaha varštatu u 1808 h.

„ ŭhodki adkryćcia Devi'm chemičnych elementaŭ magnija i kalcyja ŭ 1808 h.

„ ŭhodki adkryćcia Molu polaryzacyi śvietu ŭ 1808 h.

150 ŭhodki vynachadu Kuk'am mechaničnaj siejałki ŭ 1783 h.

„ ŭhodki vynachadu Arhand'am lampy z pustym kruhłym knotam u 1783 h.

„ ŭhodki vynachadu Bel'lam sposabu drukavańnia farbami parkalaŭ u 1783 h.

„ ŭhodki vynachadu Kort'am i Parnel'am pudlinčavańnia čyhuna ŭ 1783 h.

„ ŭhodki adkryćcia D'Elhiupiar'am metalu volframu u 1783 h.

175 ŭhodki vynachadu Dollond'am achromatyčnaha teleskopu ŭ 1758 h.

200 ŭhodki adkryćcia Brandt'am kobaltu ŭ 1733 hodzie.

**U. Paŭ-ski.**

---

# Uzdoŭž — popierak Biełarusi. (2)

**Brasłaŭščyna.**

*Nasielniki i ich byt.*

Druhi značny procant nasielnictva Brasłaŭščyny stanoviać staraviery, abo jak ich miascovaje nasielnictva nazyvaje — maskali. Staraviery — heta čyściejšaj vady vialikarusy, jakija, uciakajučy ad relihijnaha praśledu rasiejskim pravasłaŭjem, asieli ŭ Litvie, Łatvii i ŭ Biełarusi. Pryšli jany ŭ Brasłaŭščynu ŭ XVIII stalećci praz Łatviju. Vielmi mnoha asieŭšy staravie-

raŭ na biełaruskich ziemlach pad Łatvijaj: jany tam u Kurlandyi i častkova ŭ Łathalii vystupajuć zhuščanaj masaj.

Pačatkava hetyja praśledavanyja vialikarusy, apynuŭšysia na našych i łatvijskich ziemlach, słužyli pa dvaroch za parabkaŭ, zajmalisia spłavam dreva, rybałoŭstvam, ramiasłom, handlarstvam i h. d., a asabliva jany pracavali na lasnych rabotach, jak cioščyki; z hetaha apošniaha słyvuć staraviery i ciapier. Ziemlarobstvam jany nie zajmalisia, bo nia mieli prava nabyvać ziamlu. Tolki paśla dvuch apošnich polskich paŭstańniaŭ, carski ŭrad pačaŭ uzmacniać rusyfikatarskuju palityku na našych i litoŭskich ziemlach, pačaŭ bolš nasyłać rasiejcaŭ u naš kraj. Z hetaj pary, dziakujučy Vilenskamu hien.-hubarnataru Muraŭjovu, jaki vystaraŭsia u centralnych uładaŭ prava dla staravieraŭ nabyvać ziamlu — jany stalisia ziemlarobami. Navat da takoj stychii dajšła kolonizacyjnaja palityka Muraŭjova, što staraviery z konfiskavanych dvaroŭ paŭstancaŭ atrymlivali ziamlu na biezterminovuju spłatu dziaržavie: h. zv. biazsročnyja nadzieły. Zatoje aŭtochtony (miascovyja ludzi) navat pravasłaŭnyja, jakich ułady, a pobač i pany ličyli „istinno russkimi Sieviero-Zapadnaho kraja“ nia mieli prava ad kazny kuplać ziamli. Pryvilei hetyja byli tolki dla staravieraŭ i rasiejcaŭ, prybyŭšych z centralnych hubernijaŭ, a taksama i vajskovych (aficeraŭ) rasiejskaj armii.

Z tej pary stalisia staraviery ziemlarobami. Jany ziemlarobstva lubiać i dobra haspadarać, ale pobač z hetym lubiać zajmacca handlem i krychu ramiasłom. Handlujuć jany pieravažna śviniami i drobju, a taksama na šyrejšuju mierku zajmajucca rybałoŭstvam.

Ramiasło ich — heta dz eraŭlanyja vyraby: bandarstva, abodnictva, smalarstva i da h. p. Zajmajucca staraviery tak-ža vyrabam aŭčyn.

*Vyhlad staraviera.* Starav er bolš čym siaredniaha ŭzrostu, čyrvony, zdarovy, zahartavany, fizyčna mocny, na choład mała reahuje, mała chvaravity. Pracavać lubić, naniaŭšysia sumlenna vykonvaje pracu. Jak upjecca, lubić pabujanić. Pjany staravier niebiaśpiečny: „prociŭ šerści“ nie skažy, bo zaraz puście nožyk u chod. Mścivy strašenna; kryŭdy svajej nie zabudzie nikoli i pry pieršaj akazii samścicca: akradzie, zabje, spalić. U chvilinie razjušańnia—nie apanavany. Ništo jaho nia strymaje. Za svajho pryjaciela hatoŭ hałavu pałažyć, choć-by jon nia byŭ staravieram, za vyniatkam žyda.

Z biełaruskim nasielnictvam staraviery užyvajucca i časta z pakaleńnia ŭ pakaleńnie žyvuć u vialikaj pryjaźni (skryŭdzić svajho pryjaciela-susieda nie dazvolić nikomu). Katalikoŭ staraviery nazyvajuć „palakami“ i lepš lubiać čym pravasłaŭnych. Pry hetym treba zaznačyć, što staraviery nadta konservatyŭnyja ŭ svajej viery, zababonnyja, mała hramatnyja i da hramaty nieachvotna chinucca. Movaj havorać rasiejskaj,

z peŭnymi techničnymi asablivaściami i biełaruskim akcentam. Staravier — niazdolny da čužych movaŭ: jon nijak nia moža navučycca movy biełaruskaj, abo jakoj inšaj, choć-by jon žyŭ adzin 10—20 hadoŭ siarod samych biełarusaŭ. Lubić piajać, ale svaje pieśni, charakternyja vialikarusam; mocna vieryć u roznyja duchi; demonolohija vielmi bahataja (staravierskich biasoŭ trudna paprostu pieraličyć: pačynajučy ad biesa łabataha, idzie całaja ich ćma i kančajecca na niejkim tam biesu kryvym, ci niaŭdałym).

Najvažniejšyja staravierskija centry ŭ Brasłaŭščynie hetkija: Vidzy z vakolicami, Kaziany, Rakaŭcy, Varonka, Kubaleŭščyna, Niŭniki, Bujeŭščyna, Maciešy i inš. — Staraviery źjaŭlajucca duža cikavym elementam na našych ziemlach. Ich upłyŭ na miascovaje nasielnictva i inš. cikavyja pracesy, zasłuhoŭvujuć, kab ab ich pisać całuju raspravu, ale my ahraničymsia hetymi karocieńkimi viestkami, dziela ščupłaści našaj časopisi.

Ab „palakach" i tatarach pisać asobna nia budziem, bo jany svajej psychikaj i bytam badaj susim nia roźniacca ad miascovaha biełarusa, ab bycie jakoha napišam u nastupnym numary. Ab palakach praŭdzivych h. zn. asadnikach pisać nia budziem, bo časta ab ichnym žyćci čytajem u karespandencyjach bieł. časopisiaŭ.

**Jakub Brasłaŭski.**

**Papraŭka.** U Nr. 2 „Śl. M". zakrałasia karektarskaja pamyłka, a imienna: tam, dzie pieraličajucca nasielniki Brasłaŭščyny, nia ŭspomnieny palaki, jakich niemały procant jość na zachadzie Brasłaŭščyny.

---

# Літэратурны аддзел.

## У 15-ЫЯ ЎГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ.

*25.III.1918—25.III.1933.*

Ад громаў гарматніх зямля ўся стагнала,
Крыві чалавечай прыймаць не ўсьпявала.
Нявіннага люду ў прымусе мільёны,
За справу тыранаў ішлі ў бой шалёны.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Ўставай! ўставай, хто сьпіць ў няволі!
За злыдняў справу ўжо даволі
Бязмэтна йсьці на зьніштажэньне:
Свайго нам трэба вызваленьня!
Далоў цароў, далоў іх путы!
Зьбірайцесь ўсе, хто ёсьць закуты
Ў ланцуг няволі іх ганебны.
Далоў! — Цары нам не патрэбны!

Пара змагацца за свабоду —
Падняўся кліч усіх народаў...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Крывіцкі народзе!
Кажы аб свабодзе.
Цябе воля кліча.
Зьбірайся на веча!...
На вялікі сход
Ішоў народ...
Ішлі бяз прынукі.
Ў мазалях іх рукі.
У лапцёх абуты.
Ішлі скінуць путы;
Сказаць ішлі сьвету,
Каб праўду знаў гэту,
Што так, як з прадвеку
Ня сьцерпяць ўжо зьдзеку:
Зьніштожаць прымусы.
Яны — Беларусы.
Іх воля бязмежна.
Іх кліч—незалежнасьць!

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ад гэтай вясьнянай і памятнай весткі
Ў лясох расьцьвіталі усьцешна пралескі;
Шумелі задумна Крывіцкія пушчы,
І ціўкалі птушкі ў няпройдзенай гушчы.
Рунелі вясёла істужкі—палеткі;
Прывет слалі сонцу прыгожыя кветкі
Старонка уся весялілась бязмежна:
Беларусь!...
Незалежна!...
Сказала так веча...
Ці чуў, чалавеча!?

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Па крывавай усей завярусе,
Шчасьлівейшыя вольны былі
И паддаліся тэй самай пакусе,
Чым тыраны—цары праслылі:
Не давалі свабоды слабейшым;
Не хацелі іх кліч шанаваць.
Царскім звычаем найганябнейшым
Пачалі ў ланцугі іх каваць...
З прагавітасьцяй страшнай, вялікай,
З ненавісьцяй заўзятай і дзікай
Карагод на‘т крывавы вадзілі,
Як Ей цела на часткі дзялілі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пятнаццаць гадоў ужо прайшло з таго часу,
Як стогне Старонка, бяз енку — галасу,
Як мучыцца цяжка, цярпіць у прымусе —
Ці чуеш, працоўны ты мой Беларусе!?

Ня сьпі!...
Зважай!...
Няўпынна дзеяй!
Змагайся з поўнаю надзеяй
За кліч Крывіцкага народу:
За незалежнасьць! ..
За свабоду!

**Казлоўшчык.**

## МЫ.

Мы—з народам, мы —з сярмяжным,
Што пад стрэхамі жыве
І звычаем векацяжным
Ніву родную арэ.
Мы—з народам нешчасьлівым,
Што гаруе ўсё жыцьцё...
Мы—з народам, церпялівым,
З ім ідзём, бо мы з яго.
Шлях наш просты, шлях народны,
Потам скроплены, сьлязьмі...
Хто-ж з нас будзе так нягодны —
Іншай сьцежкаю ісьці?
Нашы думкі гартаваны
У нядолі крывічоў...
Хто-ж з нас будзе так паганы —
Зьменіць іх для чужакоў?
Праўды нашае жаданьне
Наказалі нам бацькі...
Хто-ж з нас подлым такім стане —
Здрадзіць іх за грашакі?
Не, ніколі не пакінем
Ні народ, ні што яго,
І вышэй, вышэй падымем
Веру ў лепшае жыцьцё!
Наша-ж вера — сонца волі
Над Айчынаю сярмяг,
Дзе лунаў-бы ў лепшай долі
Бел-чырвона-белы сьцяг!

**Ўлад-Ініцкі.**

## ŽYŬ NA ŚVIECIE LAVON.

*Adryvak z scen. abraz. „Na papasie" J. Kupały.*

Žyŭ na śviecie Lavon
Moład, dužy byŭ jon,
Tolki z volaj i dolaj nia bačyŭsia.
Sonny sercam, dušoj
Dramaŭ ŭ chacie kryvoj,
A vychodziŭ, ślazami śled značyŭsia.

Až voś čuje Lavon
Z usich kliki staron,
Što jon, durań, žyvie pabydlačamu.
Dyj sam tut zrazumieŭ,
Što dum śvietłych nia mieŭ,
Što padobien byŭ drevu chadziačamu.

Zvaruchnuŭsia Lavon,
Jak vada, jak ahoń,
Paznaŭ siłu ŭ siabie niabyvałuju;
Ŭžo biada — nie biada,
Užo nuda — nia nuda,
Zapieŭ pieśni svaje razudałyja.

Ziamla stohnie, dryžyć,
Jak piaje, jak kryčyć,
Jak praśviety sabie damahajecca,
Až ad piesień takich
Strach napaŭ na druhich,
I voś čornaja moc padymajecca.

I pašło ŭsio ŭvierch dnom,
Śvisty, jenki kruhom,
Hruhany na dabyču źlatajucca:
Ščaścia dać biedaku
Nia ŭsim šło na ruku, —
Nia ŭ ruku, što Lavon pračychajecca.

Darma silen Lavon
I advažny tak jon —
Na padmohu darma jon nadziejecca:
Hałavu jon svaju
Daŭ za praŭdu ŭ baju
Tolki pamiatka — nasyp vidniejecca.

Lažyć dremle Lavon,
Na hrudzioch vyras klon,
Kali-ž viecier pa śviecie raschodzicca —
Šumić šumna toj kłon,
Jašče ŭstanie Lavon...
Hej! Lavony ŭ nas nie pazvodziacca!

## СВОЙ РОДНЫ КРАЙ.

Свой родны Край я толькі знаю,
Адным імём завусь;
Адно я толькі слова маю
У сэрцы — Беларусь.

Ня страх няволя, гора знаю
І прагну толькі жыць,
Жыцьцём здабыць свабоду Краю;
Там думка лятуціць.

Шчасьліва потым гдзесьці згінуць,
Сярод муцін глухіх:
Свой Край свабодны з шчасьцем кінуць
У іскрах залатых.

**П. Завея.**

## Z frontu.

Panavała ciomnaja noč. Vioska, jakaja lažała ŭ nizinie, nad nievialičkaj rečkaj, była ahornuta mocnym snom. Nieda loka jaje, a navat u samoj vioscy było raspałožana balšavickaje vojska. Na poŭnač ad vioski, za rečkaj, biehła vuzieńkaja darožka. Voś-ža kala poŭnačy, sa starany hetaje darožki, pačuŭsia cichi homan ludziej i skryhot kalos. Za im-ža zaraz, jak vichor, niośsia pa vioscy jazdak, zatrymlivaŭsia pry chatach, humnach i asielicach i kryčaŭ:

— «Tavaryšy, sabirajcieś! Biełyja ŭžo blizka!»

Raptam padniaŭsia ruch u vioscy. Žaŭniery chutka ubiralisia, pakavali svaje rečy i ŭciakali. Ad homanu hetaha pačała budzicca i vioska. Ustavali sialanie staryja, ustavała moładź i dzieci navat. — Usie jany pytalisia, što takoje, čamu tak raptam i tak chutka. U adkaz čuli adno: — „Užo biełyja blizka".

Za hadzinu, a mo' na't chutčej nia było ŭžo ŭ vioscy anivodnaha žaŭniera, tolki čuvać jašče było homan na darožcy, chutka adnak i jon ścich.

Pačynała śvitać. Sialanie pacichu syšlisia ŭ małuju hramadku i abhavaryvali stvaryŭšajesia pałaženie. — Niama žaŭnieraŭ, niama ŭłady, — balšaviki vyšli — biełyja jašče nia pryšli, a moža i nia pryduć. — Što tady rabić? — Ci čakać čužyncaŭ, ci moža samym jak-niebudź bracca za svajo haspadaravańnie i ŭnarmavańnie svajho žyćcia? — I voś hetaje apošniaje najbolš prypała ŭsim da serca. Kožny chapiŭsia za dumku: — samym sabie ładzić žyćcio novaje. Bo i čamu-ž hetaha nie rabić? U nas jość chleba davoli, a soli, choć svaje nia majem, ale adnak za chleb, miasa i dreva, družna pracujučy, zdabudziem usio, što tolki nam patrebna. Tak płyła žyvaja i prycišanaja hutarka, usie-ž jeju byli tak zaniaty, što nie ahledzilisia, jak sonca ŭžo ŭzyšło i załatymi kasulkami

aśviaciła ich šeruju viosku, zialonuju nivu, les, hory, daliny i rečku.

U hetym časie z vioski praz rečku prabiraŭsia małady chłapčuk. Jon śpiašyŭ na pole, za haru, pad les, da jamy, dzie schavaŭ svaju žyvicielku-kabyłku ad čužych žaŭnieraŭ. I voś, kali siarod pola jšoŭ jon ablity załatymi sonečnymi kosami i byŭ niedaloka mety, — raptam ni z siul ni stul pa ŭsiej vakolicy razdaŭsia strašny huk harmatniaha vystrełu. Chłapčuk spałochaŭsia, zadryžeŭ, jak asinka, staŭ, pryhnuŭsia i słuchaŭ. Dalej adnak było jznoŭ usio spakojna. Chłapčuk, nia viedaŭ što rabić — iści napierad, ci varočacca nazad. Pačakaŭšy, ahlanuŭšysia navokał, nia ŭbačyŭšy nidzie žyvoj dušy, chutkim krokam rušyŭ napierad. Nie zadoŭha byŭ jon užo pry jamie i pry svajej kabyłcy darahoj, — łaskaŭ jon jaje, ciešyŭsia, dumajučy, što ciapier moža sapraŭdy nastanie ŭžo spakoj i jon z jeju pojdzie arać svaju niŭku. Zachopleny tak svabodaj, pryhožaj ranicaj i spakojem, pamaleńku absunuŭ jon stromy bierah jamy i vyvieŭ kabyłku na śviežaje, zdarovaje pavietra i daŭ joj mahčymaść skubnuć zialonaj travicy dy šukaŭ užo vadzicy.

Ale voś u hety mament z blizkaha lesu vysunułasia choć zialonaja, ale „biełych“ kavaleryja. Ubačyŭšy ž biezbaronnaha chłapčuka z kabyłkaj, chutka dalacieła da jaho i zabraŭšy „ŭ pałon“ pahnała ŭ viosku. Spačatku chłapčuk nie zdavaŭ sabie spravy, što robicca i što z im staniecca. Ale chutka daviedaŭsia. Novyja vaładary, pryhnaŭšy jaho da vioski, sabrali jašče inšych sialan, kazali „zakładać koni“ i viaźci im sała, chleb i masła.

* * *

Vialiki ŭžo kavałak darohi prajechali z abozam, kali ahoŭtalisia trochi z novym pałažeńniem i paviali pamiž saboj hutarku.

— Nu, bratki, štoś hetyja novyja vaładary nadta „advažnyja“ — pačaŭ adzin z ich.

— A tak — adkazaŭ druhi. Byli balšaviki, ničoha nam dobraha nie pryniaśli, ciahali ŭsiudy, brali koniej pad aboz, ale ŭsio-ž taki sami ŭ chleŭ nie chadzili, a heta — „proše, proše“, dy i sam u chleŭ palez. Musić ciažka budzie nam z imi. Ale niejak treba budzie pravavacca.

— Dy što pravavacca — ŭmiašaŭsia najmałodšy z ich — treba prosta i adkryta zmahacca z niespraviadlivaściaj i praŭdy šukać, nie pazvolić kryŭdzić siabie!

Hutarku ich adnak pierarvaŭ nadjechaŭšy kavaleryst, kryčačy:

— „Proše dužo nie gadać, a prendzej jechać!“

— Dobra, panok, dobra — adkazali — budziem jechać, a pacichu dadali „tolki-ž nie zaŭsiody“...

*J. N.*

## Dla našych małodšych.

# Аб каплях расы.

(Глядзі „Шлях Моладзі“ № 2 (49).

Тое самае адбываецца і ў прыродзе. У працягу цёплага дня зьбіраецца ў паветры шмат вадзяной пары. Увечары-ж і ўночы, калі паветра астуджываецца, калі астуджываюцца таксама лісты, каменьні і да г. п. прадметы, частка пары выдзяляецца з акружаючага іх паветра і асаджываецца на іх у відзе дробных кропаляк вады, якія называюцца расою. Пасьля аднак, калі ізноў пакажацца сонца й паветра ізноў нагрэецца, распушчае тады яно ў сабе большую колькасьць вады, а значыцца і ўсю гэтую расу — як кажам — выпівае.

Познай восеньню або раньняй вясной раса мерзьне й замяняецца ў іней, ці ў белы мароз, пакрываючы стрэхі, каменьні, дрэвы, упрыгожваючы шыбы нашых вокнаў цудоўнымі ледзянымі рысункамі, падобнымі да лісьцяў пальмаў і папараці.

Калі ў паветры ёсьць надта шмат вільгаці, як гэта бывае над палямі, рэкамі, сажалкамі або морам, тады пара выдзяляецца пры астуджэньні паветра ў відзе масы дробных водных пузыркоў, якія падымаюцца нізка над зямлёй у паветры — гэта імгла,

Няраз бачылі вы гэтыя туманы густой імглы, якая падымаецца над палямі, сажалкамі, якая снуецць у восень па вуліцах гарадоў. Імглой ёсьць таксама пара, якая выходзіць узімку з вуснаў і насоў людзей, або якая выдзяляецца з цела разагрэтых коней.

З вільготнага паветра, на дробненькіх пылінках, якія носяцца ў паветры, зьбіраецца вада; адсюль паўстаюць маленькія кропалькі вады, якія як пыл, падымаюцца ў паветра, творучы воблакі. Калі воблакі робяцца надта густымі, дык замяняюцца на хмары. Часам водныя пылінкі ня могуць даўжэй утрымацца ў паветры, бо робяцца на гэта завялікія; тады яны лучацца з сабой і творуць каплі, якія спадаюць як дождж.

Людзі пераканаліся, што прысутнасьць пылу ў паветры ёсьць неабходна патрэбная, каб маглі стварыцца воблакі, хмары й дождж.

Хмары й воблакі маюць розныя формы і розныя колеры, і розна называюцца.

Калі каплі дожджу хутка зьмерзнуць пад уплывам рап

тоўнай сьцюжы, тады спадаюць на зямлю як бязформенныя кавалачкі лёду, якія завуцца градам.

Але, калі вадзяныя каплі, з якіх творыцца хмара, мерзнуць угары паволі, тады лучацца яны ў дробненькія шасьцёхкутныя ледзяныя зорачкі й спадаюць на зямлю як платкі сьнегу. Кожны з нас няраз узімку прыглядаўся з цікавасьцю цудоўным сьнежным зорачкам, падобным да тых, якія мы бачым на рысунку.

Так значыцца вада, якую забрала паветра ў відзе пары з паверхні зямлі, з мораў, рэк, балот, сажалак і іншых зборнікаў вады, ізноў спадае на зямлю, як **раса, іней, дождж, град** або **сьнег.**

А. Л.

# Žavaranak.

Nie paśpieła jašče viasna prybrać łuhi i bałota kvietkami, nie paśpieła natkać šaŭkovych listočkaŭ drevam.

Šera ŭsio było kruhom: i ziamla i drevy i kusty; tolki dzie-nia-dzie na miažy maładzieńkaja traŭka prabivałasia skroź staroje letašniaje zielle, dy časam zazichacieŭ u koskach soniejka žoŭtaskrydły matyločak.

Vuzieńkim zahončykam, chudy, panury koń ciahnuŭ kryvuju sachu. I koń i jaho haspadar-chlebarob iduć pamaleńku, hałovy paspuskali, sum i nuda vyhladajuć z ich vočaŭ.

Och, bo i kryvavaja ich praca!

Ziamla biednaja, piaščanaja, a kamieńniaŭ, kamieńniaŭ na joj! — A Boža, Miłaserny, skul-žaž jany biarucca?

Ciahnie voś konik sošku, ciahnie, až tut jak uprecca jana ŭ kamień — ni ŭ zad, ni ŭpierad. — Stanie koń, dy ahladajecca, zdajecca skazać choča: ciapier tvoj čarod haspadar!

Toj i nie čakaje, biare koł dy davaj z kamieniem macavacca. Macujecca, macujecca, nakaniec siły sabraŭšy jak nalaža na koł, dyk tut kamień i padymiecca: haspadar na miažu jaho skocić dy abcirajučy pot dumaje: dziakavać Bohu, adnym mienš!

Iznoŭ konika pahaniaje; soška skrypić, a drobnyja kamieńni barabaniać biazustanku: bach, bach, — bach, bach, bach. Niamiła heta sielaninu-haspadaru; padčas až zmorščycca, skryvicca, dyj plunie: „a badaj, vas, babaj... kab-žaž choć vašaha hołasu nia čuć...

Curkom ljecca pot pa jaho tvary, i kapla pa kapli padaje na šeruju ziamielku.

Zyjšoŭ Pan Jezus na ziamlu pahladzieć na ludzkuju pracu, na žyćcio. Biełym tumanam adzieŭsia, idzie darohami dy pucinami, až i na zahon šery śkiravaŭsia. — Vidzić, koń

błahieńki ciahnie sošku kryvuju, a za joj idzie haspadar sumny, dy potam źlity.

Skranuŭsia žal ŭ sercy Jezusovym, a vusny Jaho šapnuli: „Pieramianić hetaha nielha, takaja ŭžo dola ludzkaja, kab u pocie svoj chleb zdabyvali; ale-ž dam ja chlebarobam tavaryša, što pieśniu nadziei piajać im budzie dy zhłušyć skryp soški i hłuchi stuk kamieńnia“...

Schiliŭsia Pan Jezus, uziaŭ u ruku hrudačku šeraj ziamli potam chlebaroba ablituju, vočy padniaŭ da nieba i molicca.

Zatrapiatała ŭ ruce Jezusavaj, zaščabiatała i hen až u nieba vysoka ŭźniasłasia šerańkaja ptušačka — žavaranak...

Hałasok zyčny, jak siarebrany zvanočak, paliŭsia na sumnuju ziamlu, na hałavu chlebaroba. A toj padniaŭ hałavu, uśmichnuŭsia i z novaj siłaj, z bolšaj achvotaj pačaŭ harać svoj vuzieńki zahon.

*Z. Vieras.*

---

## Chcivaść

(Bajka.)

Što chcivy — choča mieci bolej,
To peŭna ŭsiakamu viadoma;
Jamu nikoli nie davoli,
Choć-by ŭsiaho mieŭ dosyć doma.

—z—

Zadorny Łyska cieraz kładku
Ŭ zuboch raz kostku nios małuju,
Kali zirnuŭ na vodu hładku —
Ubačyŭ ciućku tam druhuju.
Voś zabijackim vokam źmieryŭ
Ad piat da hałavy i mordy —
I až vačam svaim nia vieryŭ —
Toj tak-ža sama byŭ zadorny.
— „Jašče jon maje mnie staŭlacca,
Namnu voś kark“ — padumaŭ Łyska,
„I kość pavinna mnie astacca,
Jak vyskalu jamu zub zbliska“.
Tut z šerści chib uzros, padniaŭsia;
Da bojki Łyska skočyŭ susam...
Biaz kości sobskaje astaŭsia,
Paddaŭšysia błahim pakusam;
Dyj na dadatak pakupaŭsia;
I ledź da bierahu dabraŭsia.

*J. Vilkoŭščyk.*

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Агульны Сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту.** 5-га сакавіка с. г. ў Вільні адбыўся Агульны Сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту, на якім былі абгаварываны справы: сьвяткаваньня 15-тых угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, 70 тых угодкаў беларускае прэсы і пратэсту супроць законапраектаў аб самаўрадах і аб агранічэньні аўтаноміі вышэйшых школ. — У выніку Бел. Нац. Камітэт пастанавіў 15-тыя ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі і 70-тыя ўгодкі беларускае прэсы сьвяткаваць 25-га сакавіка с. г., заклікаючы да гэтага ўсё незалежнае грамадзянства, а супроць законапраектаў аб самаўрадах і аб агранічэньні аўтаноміі вышэйшых школ, якія агранічваюць і правы беларускага народу, вынес пратэст.

**Сьвяткаваньне 15-тых угодкаў Абвешнаньня Незалежнасьці Беларусі і 70-тых угодкаў беларускае прэсы.** Дзеля наладжаньня ўрачыстага сьвяткаваньня 15-тых угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі і 70-тых угодкаў беларускае прэсы, у Вільні, з ініцыятывы Беларускага Нац. Камітэту сарганізаваўся адумысловы Юбілейны Камітэт, у сккад якога ўвайшлі прадстаўнікі Беларускага Нацыянальнага Камітэту, Таварыства Беларускае Школы і Беларускага Студэнскага Саюзу.

Сьвяткаваньне гэтых абодвух юбілеяў адбудзецца 25-га сакавіка с. г. паводле наступнае, апрацаванае Юбілейным Камітэтам праграмы:

I. Набажэнствы: 1. а 10-тай гадз. раніцай імша ў касьцеле сьв. Мікалая (зав. сьв. Мікалая); 2. а 11.30 гадз. раніцай малебен у Прачысьценскім Саборы (Зарэчча).

II. Урачыстая Акадэмія (у б. залі „Апольлё“ вул. Домброўскага 5): 1. Адчыненьне Акадэміі — старшыня Камітэту Сяргей Паўловіч, 2. Рэфэрат на тэму: „Незалежнасьць Беларусі, як ідэал —задаткам незалежнасьці фактычнай“ — студ. Сяргей Сарока; 3. Рэфэрат на тэму „Кастусь Каліноўскі, «Mužyckaja Praŭda» і ідэя незалежнасьці Беларусі“ — Кс. Адам Станкевіч; 4. Канцэртны аддзел, падчас якога будзе выступаць Хор Бел. Студ. Саюзу пад кіраўніцтвам грам. Рыгора Шырмы і дэклямацыі. Пачатак Акадэміі

---

ПАПРАЎКА. Лекцыю ў Т-ве Беларусаведы 19 лютага с. г. прачытаў грам. М. Пяцюкевіч, а не М. Пяткевіч, як было падана ў папярэднім нумары »Шляху Моладзі“.

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНА ЯКАЛЕГІІ:*

*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і М. Пяцюкевіч.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк.** **Выдавец Янка Багдановіч.**

а гадз. 19.30. Уваход па запросінах, бясплатны. Запросіны можна атрымаць у бел. кнігарні «Пагоня» (Вільня, Завальная вул. 6—10).

Бязумоўным абавязкам кожнага шчырага беларуса ёсьць узяць учасьце ў гэтым сьвяткаваньні.

**Як арыштоўвалі і „бадалі“ вучняў беларускае гімназіі ў Наваградку.** Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні нядаўна атрымаў з Наваградку падробнае апісаньне падзеяў прад і падчас арыштаў і „баданьня“ вучняў Наваградзкае беларускае гімназіі ў м-цы студзені с. г. Паводле гэнага апісаньня падзеі гэтыя страшныя і жудасныя. Дзеля гэтага Прэзыдыюм Бел. Нац. Камітэту справу гэту скіраваў да пракурора, а пасол Ф. Ярэміч у Сойме падаў інтэрпэляцыю да міністраў унутраных спраў і асьветы.

У інтэрпэляцыі гэтай паміж іншымі „красачкамі“ абходжаньня паліцыі з беларускай моладзьдзю чытаем, што вучні былі біты гумамі ў падэшвы ды пад пагрозай катаваньняў былі змушаны да падпісваньня фальшывых пісьмаў і паказаньняў.—Суд павінен выказаць праўду і віноўных пакараць.

**Рэкольлекцыі для беларускае каталіцкае моладзі.** 22, 23 і 24 г. у касьцеле сьв. Мікалая будуць адбывацца рэкольлекцыі для беларускае каталіцкае моладзі. Рэкольлекцыі будуць пачынацца кожны дзень а гадз. 6 вечарам. Вясьці рэкольлекцыі будуць Кс. Праф. Др. Я. Рэшэць і Кс. Др. Ст. Глякоўскі.

**Агульны Сход Віленскага Аддзелу Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры** адбыўся 5 г. м., на якім, пасьля прыняцьця да ведама сходам справаздачы ўступаючага ўраду і прызнаньня яму абсолюторыі, выбраны новы ўрад, у скад якога ўвайшлі: грам. Я. Малецкі — старшыня і грам. грам. інж. Ад. Клімовіч, М. Пецюкевіч, Я. Найдзюк і А. Яцына — сябры ўраду.

**Лекцыя Кс. В. Гадлеўскага.** 16 г. м. Кс. В. Гадлеўскі прачытаў у Беларускім Студэнскім Саюзе лекцыю на тэму: „Значэньне хрысьціянства ў жыцьці грамадзянства. Пасьля лекцыі адбылася гарачая дыскусія.

**Лекцыя ў Беларусаведзе.** 5-га г. м. у Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы пры У.С.Б. у Вільні прачытаў лекцыю на тэму: „Друкарня Братоў Мамонічаў у Вільні“ грам. Хв. Ільяшэвіч.

**Этнографічны канцэрт.** 18 г. м. у ўнівэрсытэцкай залі Сьнядэцкіх адбыўся беларускі этнографічны канцэрт, падчас якога прачытаў лекцыю грам. Р. Шырмы аб беларускіх народных песьнях, а хор Бел. Студ. Саюзу, пад кіраўніцтвам таго-ж грам. Р. Шырмы, выканаў дужа добра цэлы рад беларускіх народных песень.

**Прадстаўленьне-канцэрт** арганізаванае Бел. Студ. Саюзам у Вільні адбылося 12 г. м. ў залі Беларускай Філіі Дзяржаўнай Гімназіі ім. Ю. Славацкага. Адыграна была но-

Przesyłka opłacona ryczałtem.

вая актуальная камэдыя ў 2-х актах Я. Хвораста п. н. „На паэтыцкай вышыні“. Пасьля прадстаўленьня выступаў хор.

**Сьвяткаваньне ў Бел. Нав. Т-ве.** 5-га г. м. у Бел. Навуковым Т-ве адбылося сьвяткаваньне 15-лецьця існаваньня гэтага Т-ва і 300-лецьця сьмерці Вялікага Канцлера Льва Сапегі. Як падаюць газэты, з беларускага грамадзянства ў гэтым сьвяткаваньні бадай што і ніхто ня браў учасьця, за выняткам яго арганізатараў — беларускае санацыі.

**З Б.С.С.Р. Новая чыстка ў беларускіх установах у Менску.** Як падае „Савецкая Беларусь“ № 57 з дн. 13.III с.г. у Беларускім Камісрыяце Асьветы, Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве і Выжшым Пэдагогічным Інстытуце ў Менску, на падставе пастановы Ц.К. Б.К.П. была праведзена чыстка. У выніку гэтага звольнены з сваіх становічшаў Камісар Асьветы Платун яго заступнікі і цэлы рад выжшых урадаўцаў, дырэктар Б.Д.В. Некрашэвіч і 15 прафэсароў В.П.І., на чале з дырэктарам яго праф. Воўкавым.

## Наша пошта.

Я. Вількоўшчыку. Пісьмо і матэрыялы атрымалі, шчыра дзякуем, падробнасьці будуць у пісьме, якое ў хуткім часе вышлем.

Я. Т—цэю. Думаем, што Вы ўжо прэмію атрымалі, бо мы яе выслалі, толькі магчыма, што яна папала ў пазьнейшы транспарт і дзеля гэтага вышла непаразуменьне.

Я. Ключніку. 2 зл. атрымалі. Прэмію высылаем таму, хто прышле 3 зл. і з кніжак паданых у абвестцы „Ш. М.“ у № 1 або 2, — ані іншых кніжак, ані календароў ня можам выслаць — хіба Вы на іх прышлеце асобна грошы. Цяпер Вам будзе лепш прыслаць у Рэдакцыю 1 зл. (можаце значкамі паштовымі ў лісьце), чымся, каб мы Вам выслалі прэмію „запобранем“ кошту перасылкі, бо тады Вы ў сябе на пошце за гэта будзеце мусець заплаціць аж 3 зл.

М. Д—ку. „Ш. М.“ высылаем разам № 1, 2 і 3, просім выбачыць, што так доўга Вам прышлося на яго чакаць.

У. Рабізе, М. Панькуі А. Гірыну. „Ш. М.“ высылаем і чакаем абяцанае падпіскі.

Я. Жуку. Вершы атрымалі, дзякуем, просьбу спаўняем і просім не забываць.

С. Бурносу „Ш. М.“ высылаем, грошы просім слаць звычайным „пшэказэм почтовым“ на адрэс Рэдакцыі, паданы на другой бачыне вокладкі „Ш. М.“.

С. Б. Дужа цешымся з Вашага паступку і вітаем, каб-жа больш такіх. Карэспандэнцыю, як бачыце, ўжо надрукавалі.

Л. Жалейцы. За прысланае дзякуем, скарыстаем, просім пісаць.

А. М—ру „Ш. М.“ высылаем, № 12 з 1932 г. і № № 1 і 2 высылаем дадаткова.

Я. Сяўцу. За добрыя словы і адрасы дзякуем, просьбу спаўняем і чакаем падпіскі.

К. Еляшкевічу. „Ш. М.“ высылаем і чакаем падпіскі. Адрэс Ваш перадаём у Рэд. „Б. Крыніцы“. Кніжкі можаце выпісаць з Бел. Кнігарні „Пагоні“ (Wilno, Zawalna 6—10) і лепш наперад вышліце грошы, а пасьля атрымаеце кніжкі, бо „запобраньнем“ даражэй Вам абыдзецца.